„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr.

# Ніва

№ 46 (90) БЕЛАСТОК, 17 ЛІСТАПАДА 1957 г.

## Совецкі народ радасна сустрэў 40 гадавіну Вялікага Кастрычніка

Народы свету ўрачыста святкавалі 40-ую гадавіну Вялікай Кастрычніцкай Соцыялістычнай рэволюцыі. У многіх сталіцах свету адбыліся масавыя ўрачыстасці.

Напярэдадні вялікай гадавіны — 6 лістапада — у Маскве адбылася юбілейная сесія Вярхоўнага Совета Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік прысвечаная 40-ой гадавіне Вялікага Кастрычніка. На сесіі з дакладам «40 год Вялікай Кастрычніцкай Соцыялістычнай рэволюцыі» выступіў дэпутат Вярхоўнага Совета СССР, I сакратар Цэнтральнага Камітэта КПСС тав. Нікіта Хрушчоў.



*Такую суперсвыпаветраную зброю паказаў Совецкі Саюз першы раз.*
*ЦАФ. Фото — Удавінскі.*



*Фрагмент вайсковага парада на Краснай Плошчы ў Маскве. Вялікае ўражанне ва ўсім свеце выклікаў масавы паказ навейшай сучаснай совецкай зброі...*
*ЦАФ. Фото — Удавінскі.*

Заходні друк шырока скаментаваў даклад Хрушчова адначасова змяшчаючы на першых старонках яго цытаты.

7 лістапада ў гонар Вялікага Кастрычніка ў Маскве адбыўся традыцыйны вайсковы парад. Чырвоная плошча запоўнілася масквічамі. Вайсковы парад прымаў Міністр Абароны СССР маршал Радзіён Маліноўскі.

У сваёй кароткай прамове Маліноўскі, між іншым, сказаў:

— «Совецкі Саюз вядзе мірную палітыку. Але калі толькі хто асмеліцца напасць на Совецкі Саюз, Узброеныя Сілы СССР знішчаць кожнага агрэсара».

Сёлеташні вайсковы парад на Чырвонай плошчы быў незвычайным. Велізарнае зацікаўленне выклікалі ракетныя снарады розных тыпаў і велічыні. На заканчэнне вайсковага парада праехалі дзве вялізныя балістычныя ракеты — да 2 м таўшчыны і да 30 м даўжыні.

Вайсковы парад выклікаў вялікае ўражанне.

Пасля адбылася дэманстрацыя масквічоў і парад спартсменаў. (ся)



*Кадр с фільма «Сорак першы» (засл. арт. СССР Ізольда Ізвіцкая).*

## Совецкія кінофільмы карыстаюцца вялікім зацікаўленнем

Агляд совецкіх фільмаў выклікаў вялікае зацікаўленне сярод насельніцтва ўсёй Польшчы.

Ад 5 — 9 лістапада ў Беластоку адбылося 18 сеансаў аднаго кінофільма «Сорак першы» і аглядзела яго 11 тысяч жыхароў.

Перад кінотэатрам у Беластоку, Бельску, Гайнаўцы і інш. гарадоў Беласточчыны амаль кожны дзень стаяць доўгія чэргі народу.

Фільм «Сорак першы» карыстаецца надзвычай вялікім зацікаўленнем.

Апрача таго на экранах нашых кіно дэманструюцца кінофільмы «Міколка - Паравоз» і «Карнавальная ноч», якімі публічнасць цікавіцца не менш чым кінофільмам «Сорак першы».

## На экранах фільм аб спадарожніку

9 г. месяца на экраны нашых кіно ўведзена дакументальны фільм аб выкінутых совецкімі вучонымі штучных спадарожніках Зямлі. Гэты фільм пад загалоўкам «Спутнік у прасторы», рэалізавала маскоўская дакументальная кіностудыя. На заканчэнне фільма падаюцца сігналы штучнага спадарожніка. Дзеля таго, што фільм быў рэалізаваны тады, калі яшчэ другі спадарожнік не быў выкінуты — польскія дакументалісты дабавілі яшчэ адабраныя ў Польшчы сігналы другога спадарожніка.

Падчас, калі гледачы слухаюць сігналы, на экране перасоўваюцца здымкі гарадоў усяго свету, над якім пралятаюць штучныя совецкія спадарожнікі.

## Нацыянальныя меншасці ў Польшчы ўрачыста адзначылі 40-годдзе Вялікага Кастрычніка

9 лістапада 1957 года ў Варшаве тры брацкія Культурна-грамадскія таварыствы: Беларускае, Рускае і Украінскае на ўрачыстай Акадэміі адзначылі 40-ю гадавіну Вялікай Кастрычніцкай Соцыялістычнай рэволюцыі. Акадэмію сваёй прысутнасцю ўдастоілі прадстаўнікі партыі і ўрада ПНР а таксама прадстаўнікі Совецкага пасольства.

З дакладам аб гэтай знамянальнай гадавіне выступіў Сакратар Украінскага грамадска-культурнага таварыства тав. Васількіў. Пасля даклада адбылася багатая мастацкая частка. З вершамі, прысвечанымі Вялікаму Кастрычніку, выступіў малады беларускі паэт Віктар Швед.

Прысутныя на Акадэміі бурнымі воплескамі сустракалі выступленні харавых і танцавальных калектываў.

## Якуб Мартынюк узнагароджаны ордэнам — афіцэрскім крыжам „Полёнія Рэстітута"

У 87 нумары «Нівы» мы друкавалі ўспаміны ўдзельніка Кастрычніцкай Рэволюцыі, былога падафіцэра «Аўроры», Якуба Мартынюка з Новабэразова. Якуб Мартынюк быў запрошаны на цэнтральную акадэмію ў Варшаве прысвечаную 40-гадавіне Кастрычніка.

Урад Польскай Народнай Рэспублікі за заслугі Кастрычніцкай рэволюцыі ўзнагародзіў Мартынюка ордэнам — афіцэрскім крыжам «Полёнія Рэстітута». Апрача таго Мартынюк неўзабаве наведае Маскву і пабывае яшчэ раз на «Аўроры».

## Рыбалы — на беларускай мове

У мінулую нядзелю — 10 лістапада, па радыёвузлу Рыбалы (Бельскі павет) адбылася беларуская перадача, у якой расказана аб Беларускім грамадска - культурным таварыстве. Перадалі таксама агляд апошняга нумара «Нівы» і рэкламы беларускіх выданняў у Польшчы. Паміж перадачамі перадаваліся беларускія народныя песні як «Кума, мая кумачка», «На дворы вечар вечарэе», «Бывайце здаровы» і інш.

Беларускую радыёперадачу слухала больш-менш 20 вёсак. (ся)



*У сувязі з 4 гадавінай Кастрычніцкай Соцыялістычнай рэволюцыі ў шматлікіх будаўнічых прадпрыемствах СССР вырашылі прыспешыць тэрмін аддачня ў карыстанне насельніцтва новых жыллёвых дамоў і пасёлкаў.*
*На здымку: новыя жыллёвыя дамы па Аўтазаводскай вуліцы ў Маскве. Атрымалі тут кватэры рабочыя Маскоўскай аўтамабільнай фабрыкі ім. Ліхачова.*

# Шчыры сябра беларусаў

**(Ад нашага карэспандэнта)**

Юнак, што толькі прачнуўся, прыўздымаецца насустрач узыходзячаму сонцу. Такі помнік на магіле Яна Райніса — народнага паэта Латвіі, вялікага сына роднай зямлі, шчырага сябра беларусаў. І калі глядзіш на гэты помнік здаецца, што камень ажывае, юнак гатоў устаць, свабодна і радасна раскінуць рукі насустрач святлу, насустрач новаму дню.

З глыбокай сімпатыяй вітаў ён рэвалюцыйныя падзеі кастрычніка 1917 года, якія назваў «вясной чалавецтва».

З вялікай павагай паэт адносіўся да Савецкага Саюза і таму, калі ў 1920 годзе ў Латвіі было створана Таварыства культурнага збліжэння з народамі Савецкага Саюза, Райніс стаў яго старшынёй. Ен вельмі цікавіўся культурным і грамадскім жыццём вялікай суседняй дзяржавы, цікавіўся жыццём беларускіх народных мас як у Латвіі, так і ў Беларусі. Паэт з'яўляўся адным з самых палымяных абаронцаў культурных і палітычных інтарэсаў беларусаў, што жылі на тэрыторыі Латвіі (згодна са статыстычнымі данымі таго часу беларусаў у Латвіі налічвалася больш 75 тысяч).

Будучы міністрам асветы Латвіі, Ян Райніс заснаваў пры міністэрстве беларускі аддзел, прыкладаў шмат намаганняў да стварэння беларускіх школ, каб даць магчымасць беларусам атрымоўваць адукацыю на сваёй роднай мове, развіваць сваю культуру. Ен клапаціўся таксама і аб утварэнні Латвійска - беларускага таварыства культурнага збліжэння. Акрамя ўсяго гэтага Райнісам была пачата праца па складанні гісторыі беларускай літаратуры і збор матэрыялаў для фальклорнай драмы «Беларусы». Ян Райніс неаднаразова настойліва абараняў у сейме правы і запатрабаванні беларускага насельніцтва.

З вялікай радасцю прыняў паэт у 1926 годзе запрашэнне на акадэмічную канферэнцыю па ўдакладненню беларускага правапісу, якая была склікана Інстытутам беларускай культуры ў Мінску.

Побыт у сталіцы Беларусі Ян Райніс скарыстаў, акрамя ўдзелу ў рабоце канферэнцыі, таксама і для азнаямлення з жыццём рэспублікі. З цікавасцю ён аглядзеў прадпрыёмствы, навучальныя установы, музеі, быў на спяктаклі ў Беларускім дзяржаўным драматычным тэатры, прысутнічаў на адкрыцці Беларускага другога драматычнага тэатра ў Віцебску, які пачынаў сваё існаванне. У Беларускім музеі Ян Райніс цікавіўся экспанатамі этнаграфічнага і археалагічнага аддзелаў, а таксама аддзелаў старажытнага мастацтва і рукапісаў.

Прыезд у Беларусь паглыбіў знаёмства і сяброўства Райніса з беларускімі пісьменнікамі, асабліва ён зблізіўся з Янкам Купалам і Якубам Коласам. Нягледзячы на кароткатэрміновы побыт Яна Райніса ў Беларусі, ўсё тое, што ён убачыў тут, зрабіла на паэта моцнае ўражанне. Ен пісаў «няма для паэта найвялікшай радасці, чым бачыць, перажываць і быць у захапленні ад чыстага, яскравага патоку святла. Гэту радасць я адчуваю ў дні, калі на маю долю выпаў гонар удзельнічаць у Беларускай акадэмічнай канферэнцыі».

Пасля, вярнуўшыся з Беларусі ў Латвію, Райніс выступіў з шэрагам дакладаў, у якіх ён знаёміў прысутных з жыццём Беларускай рэспублікі, з яе дасягненнямі ў культурным і гаспадарчым будаўніцтве.

Праз усё сваё жыццё вялікі пясняр Латвіі быў шчырым сябрам беларускага народа, з пашанай адносіўся да здабыткаў яго культуры, якія былі блізкімі і зразумелымі Райнісу. Фармаванне яго таленту праходзіла пад уплывам не толькі латышскага але і беларускага народнага фальклору. Паэт пазней сам пісаў аб гэтым: «Першыя літаратурныя ўражанні атрыманы мною ад нашых народных песень, якія мая матуля даволі часта і ахвотна цытавала; яшчэ калі быў у гімназіі я запісаў некалькі соцень такіх песень пад яе дыктоўку. Аднак і да літоўскіх песень і да прасякнутых смуткам беларускіх мелодый я прыслухоўваўся ад пяці гадоў майго жыцця аж да пятнаццаці».

Жыватворчай крыніцай творчасці Яна Райніса з'яўляліся народныя песні, легенды, казкі, паданні. Таму так дарага і зразумела яна народу, як і творчасць нашага песняра Янкі Купалы. Запазычанне фальклорных матываў, тэм, вобразаў народнага быту, рэалізм, ідэі, змаганне народных мас за светлую будучыню, глыбокае разуменне імкнення і жаданняў простых людзей, гуманізм з'яўляюцца асноўным у творчасці абодвух паэтаў. І зусім законамерна, што творчасць як Яна Райніса, так і Янкі Купалы сёння з'яўляецца здабыткам усяго прагрэсіўнага чалавецтва, гучыць на шматлікіх мовах народаў свету, таксама і творы Шэкспіра, Шылера, Ібсена, Пушкіна, Горскага, Лесінга, Кальдэрона і іншых класікаў сусветнай літаратуры гучаць на латышскай мове ў перакладах Райніса.

Такім быў Ян Райніс — шчыры, добры сябра беларускага народа. Амаль пяць дзесяткаў гадоў свядомага творчага жыцця аддаў ён справе вызвалення роднага народа, справе еднасці простых людзей усяго свету. Ен шчыра любіў свой край, свой народ. І таму нездарма такі патрыятызм, такая вера і праўдзівасць чуюцца ў яго словах:

*Хто любіць бацькаўшчыну — у тых ёсць дом,*
*Дзе абагрэцца можна ў непагоду,*
*Спакой і хлеб у тых — ва ўзнагароду,*
*І не трывожна ім, хоць ноч кругом.*

АЛЕСЬ ТРАЯНОЎСКІ
г. Рыга.


*На здымку: Ян Райніс і Янка Купала (Мінск, 1926 г.).*

## Яшчэ можна выпісаць часопісы з Савецкага Саюза

У гэтым годзе ў Беластоцкім ваяводстве выпісвана 8.000 экземпляраў розных газет і часопісаў з Савецкага Саюза.

Найбольш, бо 949 індывідуальных падпісчыкаў налічвалася сярод школьнай моладзі Бельска, Гайнаўкі (1.500 экземпляраў) і Беластока. Адна толькі Медыцынская Акадэмія ў Беластоку выпісвала 143 розных часопісаў.

Адным з энтузіястаў савецкіх часопісаў з'яўляецца Алесь Федаровіч з Семятыч, які выпісвае 8 часопісаў.

Нажаль яшчэ не ўсе дацэньваюць вартасць савецкага друку. Да такіх можна залічыць прафсаюз чыгуначнікаў і тэкстыльных работнікаў. Але трэба ўжо аб гэтым падумаць, бо да 10 снежня прымаецца яшчэ падпіска.

Варта і карысна ведаць як жывуць і працуюць нашыя савецкія суседзі.

Р.

## Ці ведаеце, што ...

...«Міхась Падгорны» — гэта першая беларуская опера, якую напісаў кампазітар Я. Цікоцкі. Упершыню на сцэне тэатра была яна пастаўлена ў 1939 годзе. У час дэкады беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве ў 1940 годзе опера мела вялікі поспех у маскоўскага гледача.

На працягу некалькіх апошніх год кампазітар дапрацоўваў оперу — напісаў новы музычны эпізод — расказ Міхася аб Леніне.

У гэтай оперы апавядаецца аб барацьбе працоўных Беларусі супроць іншаземных інтэрвентаў у 20-тыя гады — у часы Грамадзянскай вайны.

Нядаўна на сцэне Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балету адбылася прэм'ера «Міхася Падгорнага»

## Максім Танк атрымаў узнагароду ТПП-Р

Галоўнае Праўленне Таварыства польска-савецкай дружбы (ТПП-Р) устанавіла артыстычна - навуковыя ўзнагароды за распаўсюджванне культуры савецкай у Польшчы і польскай у СССР. Агульна прызначана 6 узнагарод па 20 тысяч злоты.

У галіне літаратуры з боку СССР у гэтым годзе атрымаў ўзнагароду выдатны беларускі паэт Максім Танк.

М. ГАЙДУК

# Драгічын — старажытны горад

**(2)**

Ішлі гады. Усёй Славяншчыне і Еўропе пачала пагражаць страшэнная небяспека. З усходу насоўваліся полчышчы татар. У 1240 годзе яны захапілі многія рускія гарады, у іх ліку і Кіеў, зраўнялі іх з зямлёй, дайшлі да літоўска - рускіх зямель. У 1241 годзе Кайдан ваеннаначальнік хана Батыя ўварваўся ў Падляшша. Паміма адчаяннага супраціўлення падляшукаў, Каидан захапіў Бельск, Мельнік, Драгічын і другія гарады абрабаваў і зруйнаваў да тла. Дабрынскія рыцары схаваліся ў лясах. Татары забраўшы нарабаванае і палоннікаў — зніклі так хутка, як і з'явіліся. Сумную карціну прадстаўляла сабой Падляшша пасля нашэсця татар. Папялішчы і пустэча, людзі зашыліся ў глыб дрымучых лясоў і баяліся вылазіць адтуль — татары маглі ізноў з'явіцца. У краіне пачалі гайсаць банды разбойнікаў.

Па пятах Кайдана ў Падляшша прыйшоў са сваімі войскамі Эрдзівіл, пляменнік Міндоўга, князя літоўскага. У 1241 годзе захапіў Драгічын, Мельнік, Бельск, Браньск і Сураж. Загадаў пабудаваць на месцы знішчаных татарамі новыя гарады і крэпасці і, як гаворыць летапіс — прыняў пад сваю ахову і падданства ўсіх уцалеўшых ад пагібелі «хрысціян-русінаў». Ятвягі далучыліся да літоўцаў, увараваліся ў Польшчу і пачалі рабаваць і нішчыць усё, што засталося пасля татар, яны змагаліся супроць палякаў пад Сухадолам (1243 год) і разам з рускімі ў 1244 годзе спалілі Люблін. Аднак не доўга панавалі літоўцы і ятвягі на драгічынскай зямлі. У 1251 годзе рускі князь Даніла Галіцкі збірае польскія і рускія войскі каб аб'еднанымі сіламі ўдэрыць на ятвяг. Ятвягі пацярпелі паражэнне.

Драгічын хутка адбудаваўся пасля нашэсця татар. Ен становіцца адным з галоўных гарадоў Галіцкай Русі. Тут у 1253 годзе вянчаўся на караля галіцкага Даніла Рамановіч. Каранацыя была багатая і пышная, прысутнічалі госці з многіх замежных дзяржаў.

Да 1288 года Драгічын належаў рускім князям. І хоць у 1274 годзе яго захапіў Тройдан, князь літоўскі, то цераз 6 год ён ізноў стаў належыць князю Юрыю Львовічу Галіцкаму. Аднак літоўцы захавалі за сабой значную частку Падляшша і пачалі ўсё больш і больш націскаць на Драгічын. Літва, якая стала ўжо абшырнай і магутнай дзяржавай, аснову якой складалі беларускія землі, а таксама большая частка былога княства галіцкага, пачала прэтэндаваць на Драгічын як на рускі горад.

Пачаліся сутычкі з Польшчаю. І ў 1383 годзе князь Януш Мазавецкі захапіў Драгічын разам з часткай Падляшша. Аднак Ягайла акружыў горад і пачаў браць яго прыступам. Людзі рускія (г. зн. беларусы і украінцы) — жыхары Драгічына, падняліі паўстанне ўнутры горада супроць войск князя мазавецкага, падпалілі крэпасць і перайшлі ў лагер Ягайлы. Як ні бараніліся польскія войскі аднак вымушаны былі ўцякаць падземнымі ходамі з крэпасці. Горад узяў Ягайла але стан яго быў такі, як пасля нашэсця татар. Ад гэтага часу, амаль да 1569 года Драгічын належыць да Вялікага Княства Літоўскага.

Пачынаецца новы перыяд эканамічнага квітнення горада. Гандаль, які развіваўся паміж Польшчай і Літвой, а таксама ганзай і Літвой у значнай меры ішоў цераз Драгічын. Горад багацее і разгортвае будаўніцтва. Ен належыць да ліку 15 найлепшых гарадоў Літвы. У 1444 годзе ён атрымлівае гандлёвыя і грамадзянскія свабоды і правы на т. зв. могдабурскаму праву, становіцца гогадам з самаўпраўленням. А князь Аляксандар у 1498 годзе ўраўняў у правах жыхароў розных веравызнанняў.

Разгортваецца прамысловасць, а перш за ўсё гандаль. Гандлям займаліся не толькі беларусы, палякі і украінцы, але немцы і шатландцы, якія здаўна пасяліліся ў Драгічыне. Драгічынскія купцы мелі сталыя суадносіны з купцамі віленскімі, трокскімі і полацкімі. Наведваюцца купцы з Кіева, сяміградчыны і Гданска. Тут здаўна існавала купецкае брацтва, якога не было ні ў водным горадзе Падляшша. А калі ў гарадах заходняў Еўропы ўзнік попыт на літоўскае збожжа, драгічынскія купцы пачалі сплаўляць ягонае ў Гданск. Значную частку гандлю складаў падляшскі воск і мёд, якія высока цаніліся на замежных рынках.

У Драгічыне жыла вялікая колькасць рамеснікаў. Рамеснікі дзеля самааховы аб'ядноўваліся ў цэхі. Шаўцы рыхтавалі боты з чырвонага і жоўтага турэцкага саф'яну які дастаўлялі сюды слуцкія і віленскія купцы. Мечнікі рабілі прыгожую аправу да шабель. Драгічынскія земляробы славі-

*Працяг на стар. 6.*

